# ПАГОНЯ

Чацвер
29 красавіка 1999 г.
№ 30 (407)
Кошт 20.000 руб.

## Месца пікетаў змяніць можна

**У самотны дзень 13-й гадавіны трагедыі на Чарнобыльскай АЭС гарадзенская гарадская арганізацыя Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне» арганізавала тры пікеты пад агульным лозунгам «Не - ядзернай зброі на Беларусі!».**

Гарвыканкам санкцыянаваў мерапрыемства. Але на свой капыл перанёс месцы правядзення двух пікетаў. Замест пляцоўкі ля шматлюднага Дома сувязі выдзяліў тэрыторыю каля крамы 134 па вуліцы Дзяржынскага. Наваколле магазіна «Брэст» таксама не спадабалася чыноўнікам, і яны вызначылі іншы адрас - паблізу гандлёвага пункту «Сонечны». Абы далей ад людскога вока.

Пікеты адбыліся пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Падыходзілі людзі, чыталі надпісы на плакатах. Часам разгараліся спрэчкі. У іншых грамадзян асаблівае раздражненне выклікаў тэкст «Аб'ядналне з Расіяй - пагроза ядзернай вайны!», а таксама карта былога СССР, густа пазначаная ракетнымі базамі. Злавесна выглядала Беларусь і Гарадзеншчына, у прыватнасці. Подпіс пад гэтымі нагляднымі дапаможнікамі нагадваў: «Так было пры СССР і так будзе пры саюзе Беларусь-Расія».

10-12 траўня ў Гродне павінна адбыцца чарговае падпісанне ітэграцыйных дакументаў. Здрадніцкая палітыка цяперашняга менскага рэжыму з'яўляецца антынароднай. Пра гэта яшчэ раз і нагадалі пікетоўшчыкі.

**Сцяпан Ярашчук**

## Новы бюджэт - новыя падаткі

**Прыняцце рэспубліканскага бюджэту, потым абласных і раённых прынесла вестку пра новыя зборы і падаткі. Так, у адпаведнасці з рашэннем Гарадзенскага аблвыканкама, з 0,5 працэнта да аднаго працэнта павялічаны памер збору на ўтрыманне ведамаснага жыллёвага фонду, ведзены аднапрацэнтны мэтавы фонд стабілізацыі эканомікі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі.**

Смаргонскі райвыканкам таксама ўвёў два новыя віды збораў. Першы датычыцца амаль усіх прадпрыемстваў і арганізацый - з першага красавіка яны адлічаюць два працэнты ад фонду аплаты працы на ўтрыманне дзіцячых дашкольных установаў. Другі тычыцца прыватных прадпрымальнікаў, якія маюць гандлёвыя пункты ў горадзе. Апошнія апрача аднаразовай аплаты за права на ўсталяванне гандлёвага пункту штоквартальна будуць аплочваць збор 0,5 МЗП за адзін квадратны метр плошчы. Ад уплаты 2-працэнтнага збору на ўтрыманне дашкольных установаў вызвалены прадпрыемствы-вытворцы сельгаспрадукцыі, райспажыўсаюз, бюджэтныя арганізацыі горада, якія датуюцца з бюджэту.

**Валянціна Вештарт, «НГС»**

## Да Хрыстовага юбілею адзін крок

**У мінулую суботу ў фае Гарадзенскага абласнога тэатра лялек адкрылася выстава малюнкаў вучняў Гарадзенскай мастацкай школы, прысвечаная 2000-м угодкам нараджэння Хрыста.**

Нягледзячы на тое, што да Хрыстовага юбілею яшчэ шмат часу, экспазіцыя штомесяц будзе папаўняцца новымі працамі дзяцей, каб потым упрыгожыць іншыя выставачныя пляцоўкі горада. Пра творчыя задумы і планы супрацоўніцтва перад спектаклем расказалі бацькам і дзецям галоўны рэжысёр тэатра лялек Мікалай Андрэеў і дырэктар мастацкай школы Іван Грыцкевіч. А духоўны куратар выставы айцец Георгій блаславіў усіх творцаў і гледачоў.

**Ігар Гандлеўскі**



НАДВОР'Е

**30 красавіка і 1 траўня** - кароткачасовыя дажджы. Вецер слабы пераменных напрамкаў. Тэмпература паветра ўначы +3...+9, удзень +16...+18, месцамі - да +20.

# Дубінкамі Беларусь не знішчыш!

**У Гродне адбыліся суды над удзельнікамі несанкцыянаванага шэсця моладзі ў Гродне 25 красавіка. Нагадаем, што гэтая акцыя, вылілася ў сур'ёзныя сутыкненні з міліцыяй (гл. мінулы нумар ПАГОНІ). Былі затрыманыя 14 чалавек, з якіх 4 непаўналетніх перадалі бацькам. Адзін з маніфестантаў шпіталізаваны ў бальніцу хуткай дапамогі з пераломам носу. У дачыненні да 9 затрыманых судом Ленінскага раёна г. Гродна (суддзя Казяк) вынесена пастанова аб адміністрацыйным арышце на тэрмін ад 2 да 4 сутак. Адзін, выпадковы прахожы, які трапіў пад "хапун", атрымаў штраф у адзін мільён рублёў.**



Фліртпрацягваецца. Цікава, хто каго падманіць?

Ваш карэспандэнт сустрэўся з двума ўдзельнікамі шэсця, у аднаго з якіх, 19-гадовага студэнта, у выніку сутыкнення з міліцыяй была зламана рука. Паводле ягонай інфармацыі, жалобнае факельнае шэсце праходзіла вечарам па адной з цэнтральных вуліц Гродна — Савецкай. Праз некалькі хвілін пасля яго пачатку да калоны, якая складалася прыкладна з 40 чалавек, апранутых у камуфляжную форму, большасць з якіх не належыць ні да адной з вядомых у Беларусі палітычных партый, пад'ехалі машыны з міліцыяй. Ад маніфестантаў запатрабавалі спыніць акцыю, папярэдзіўшы, што ў адваротным выпадку дэманстрацыя будзе разагнана сілай. Потым работнікі міліцыі паспрабавалі затрымаць некаторых удзельнікаў акцыі, якія, стаўшы ў кальцо, актыўна супраціўляліся супрацоўнікам праваахоўных органаў.

У раёне плошчы Леніна на дапамогу міліцыі прыбылі супрацоўнікі АМАП у бронекамізэлях і з аўтаматамі. Супраць удзельнікаў акцыі быў выкарыстаны слёзацёкавы газ. Іх арганізаваную калону літаральна высцнулі некалькі міліцэйскіх УАЗаў, а АМАП біў людзей прыкладамі аўтаматаў, а тых, хто ўпаў, — нагамі. У сутыкненні сур'ёзна пацярпеў вядомы беларускі бард Андрэй Мельнікаў, які выпадкова апынуўся там у гэты час. Да месца сутыкнення прыбыло некалькі машын «хуткай дапамогі».

Пасля таго, як дэманстрацыя была рассеяна пераважнымі па колькасці сіламі міліцыі, так званая «зачыстка» працягвалася ў бліжэйшых да вул.Савецкай і пл.Леніна раёнах, на вакзале. Міліцыя затрымлівала маладых людзей, апранутых у камуфляжную форму і чаравікі армейскага ўзору. Як сказаў карэспандэнту адзін з удзельнікаў шэсця, міліцыя дзейнічала з асаблівай жорсткасцю. На ягоную думку, улады хочуць запалохаць апазіцыю перад плануемай у Гродне сесіяй Парламенцкага сходу Саюза Расіі і Беларусі.

**Генадзь Барбарыч**

**Ад рэдакцыі:** ***Надзвычайнае здарэнне выклікала ў горадзе шырокі розгалас. На месцы, дзе пралілася кроў, кімсьці былі пакладзены кветкі і бел-чырвона-белы сцяжок. Некаторыя гарадзенцы проста на вуліцы выказваюць думку, што разам з прыездам расійскіх "інтэграстаў" у горад над Нёманам з'едуцца сотні беларускіх патрыётаў, якія будуць бараніць незалежнасць сваёй краіны любымі сродкамі. З гісторыі вядома, што любая грубая сіла спараджае адэкватныя дзеянні.***

# Леванеўскага пасадзілі

**27 красавіка суд Ленінскага раёна Гродна вынес пастанову аб 13-сутачным адміністрацыйным арышце вядомага прадпрымальніка, кіраўніка Гарадзенскага цэнтра абароны правоў спажыўцоў Валерыя Леванеўскага. Ён абвінавачаны ў арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу, які адбыўся 23 красавіка каля гарадскога выканаўчага камітэта Гродна.**

В.Леванеўскі адмаўляў сваю віну, заявіўшы на судзе, што ў гарвыканкаме ў яго і групы прадпрымальнікаў была прызначана сустрэча з намеснікам старшыні выканкама Валянцінай Лаўцаль. Аднак сустрэча адкладвалася і грамадзяне, якія на яе прыйшлі, чакалі на вуліцы. Да іх падышлі супрацоўнікі міліцыі і запатрабавалі спыніць несанкцыянаваны мітынг. На Леванеўскага, якога палічылі арганізатарам несанкцыянаванай акцыі, тады ж быў складзены пратакол аб парушэнні правілаў арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў (арт.167, частка 2 Кодэкса).

Прадпрымальнік не прызнаў сябе вінаватым. Аднак суд палічыў ягоную віну даказанай і вынес пастанову аб адміністрацыйным арышце. Валерый Леванеўскі сказаў у інтэрв'ю карэспандэнту, што лічыць абвінавачанне ў арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу надуманым і зробленым для таго, каб ізаляваць яго на час правядзення ў Гродне Парламенцкага сходу Саюза Расіі і Беларусі.

**Генадзь Барбарыч**

# Моладзь выбірае свабоду

**Міжнародным журы падведзены вынікі двух конкурсаў для навучэнцаў старэйшых класаў беларускіх школ.**

Права на гадавую стажыроўку ў ЗША ў рамках праграмы «Акт у падтрымку свабоды» (Freedom support Act) атрымалі 65 беларускіх школьнікаў з 2 224-х, якія бралі ўдзел у гэтым конкурсе. У прыватнасці, з Гарадзеншчыны ў 1999 годзе ў Амерыку паедуць 8 школьнікаў, з Берасцейшчыны - 12, з Магілёўшчыны - усяго 4, з Віцебшчыны - 6.

Мэта праграмы - прадаставіць магчымасць пазнаёміцца з народам і культурай ЗША і, у сваю чаргу, пазнаёміць амерыканцаў з беларускай культурай. Пераможцы конкурсу будуць жыць у амерыканскіх сем'ях і навучацца ў сярэдняй школе ЗША. Грант у рамках дадзенай Праграмы - каля 9 000 даляраў (праезд у абодва бакі, сродкі на набыццё падручнікаў, грошы на кішэнныя выдаткі, страхоўка і г.д.) прадастаўляецца Урадам ЗША, а арганізацыйнае забеспячэнне - Інфармацыйным Агенцтвам ЗША (USIA) і Беларускім Прадстаўніцтвам ACCELS - Амерыканскім Саветам па супрацоўніцтву ў галіне адукацыі і вывучэння моваў, г.Менск (выканаўчы дырэктар спадар Джозэф Ліро).

Удзельнікі другога конкурсу - 80 беларускіх 11-класнікаў з усіх абласцей РБ прэтэндавалі на права навучання ў амерыканскім Універсітэце ў Балгарыі (AUBG, г.Благоеўград) і, адпаведна, дыплом міжнароднага ўзору. Журы (Будапешт і Вашынгтон), пасля вывучэння анкет прэтэндэнтаў і вынікаў двух экзаменаў (TOEFL, SAT), днямі назвала трох пераможцаў - школьнікаў з Віцебска (навучанне ў AUBG па спецыяльнасці «эканоміка»), з Менска («ангельская мова») і Гродна, СШ N14 («журналістыка, масавыя камунікацыі»). Аплату 4-гадовага навучання беларускіх школьнікаў у AUBG (каля 43.000 USD на кожнага) і стыпендыі ўзялі на сябе дабрачынныя арганізацыі ЗША. Непасрэдным у РБ арганізатарам дадзенага конкурса выступіла Беларускае Прадстаўніцтва ACCELS.

**Сяргей Кануннікаў**

## Спадар Коулсан не хоча расказваць, як TACIS траціць 1 мільён экю

**На мінулым тыдні ў Гродне праект TACIS арганізаваў семінары-практыкумы на тэму аховы прыроды і развіцця экалагічнага турызму. Аднак для гараджан гэтая падзея засталася таямніцай за сямю пячаткамі.**

А здарылася так таму, што яе арганізатары - TACIS (праект ES па тэхнічнаму садзеянню Садружнасці Незалежных Дзяржаваў) і Гарадзенскі аблвыканкам не абцяжарылі сябе клопатамі запрасіць на семінар журналістаў.

Калі замоўчванне любой інфармацыі і амаль падпольнае правядзенне рознага кшталту нарадаў і справаздачаў ужо ў традыцыі вертыкалі - дык да гэтага незалежным сродкам масавай інфармацыі не прывыкаць. Чыноўнікі не размаўляюць з намі па тэлефоне, баючыся падвоху. А выпадкова ўбачыўшы журналіста ў службовым калідоры ці ў прыёмнай, пускаюцца наўцёкі ці «перадаюць» карэспандэнта сваім памочнікам.

Робячы адступ ад тэмы, нагадаю, што аднойчы ў пошуках адказу на простае пытанне аб нормах спажывання харчовых і нехарчовых тавараў мне давялося прабluкаць з паверха на паверх будынка гарвыканкама амаль паўдня. І вы думаеце, дабілася адказу? Спадар Анішчык, які так зазыўна распавядаў надаўна **(гл. ПАГОНЮ N3 г.г.)** пра сваю гатоўнасць супрацоўнічаць з намі, адмовіўся гаварыць. Спадар Стома з аддзела гандлю рабіў выгляд, што не разумее пытання. Астатнія ж уяўлялі сабой жывую ілюстрацыю да класічнай сентэнцыі: «Нічога не бачу, нічога не чую, нічога нікому не скажу».

Аднак, вярнуўшыся да TACISаўскага семінара, пабачым, што такімі метадамі работы пачынаюць аваладваць і прадстаўнікі, так бы мовіць, еўрапейскіх інстытутаў дэмакратыі. Спадар Ч.Б.Коулсан, кіраўнік гарадзенскага бюро праекту TACIS, не захацеў падзяліцца інфармацыяй пра мерапрыемства, тэма якога цікавіць усіх. Як-ніяк, экалогія ў нас не ў самым лепшым стане.

Водпаведзь спадара Коусана вашаму карэспандэнту - ну проста калька з традыцыйнага адказу любога тутэйшага чыноўніка. Ён вымавіў наступнае: «На мінулым тыдні я ўжо даваў інтэрв'ю адной гарадзенскай газеце. Больш ніякіх інтэрв'ю не планую, таму ні на якія пытанні я адказваць не буду». Відаць, гэта прыклад еўрапейскай свабоды слова, поўнай, аб'ектыўнай і своечасовай інфармацыі. І дзе логіка ў сувязі паміж адной газетай і другой? Можа, наогул, чыноўнік з дэмакратычнай Еўропы лічыць, што ўсе павінны чытаць адну-адзіную газету?

Магчыма, семінар-практыкум быў цікавы толькі спецыялістам-эколагам і турыстычным агенцтвам. Але ў любым выпадку дазіраваць сацыяльна важную інфармацыю не павінны ні чыноўнікі (нашы ці замежныя), ні хто іншы. Калі чалавеку нецікава чытаць пра «Рэгіянальнае развіццё і ахову прыроды ў еўрарэгіёне «Нёман» - ён проста выкіне газету. Аднак інфармаваць яго мы абавязаны. Ды і каму нецікава, як будзе зрасходаваны адзін мільён экю, выдаткаваны TACIS на рэалізацыю праекта? Тое, як і хто збіраецца ахоўваць нашу прыроду?

Любыя таямніцы спараджаюць чуткі. Калі работа праекта TACIS агортваецца яго кіраўнікамі таямнічым флёрам - дык, натуральна, што народ перастае яму давяраць. Ужо сёння ходзяць чуткі, што асобныя супрацоўнікі TACIS збіраюць інфармацыю пра гарадзенскія прадпрыемствы для сваіх імперыялістычных мэтаў.

Відаць, не такая ўжо немагчымая перспектыва, калі спадар Коулсан упадобіцца выгнаным з Драздоў дыпламатам і паедзе распаўсюджваць досвед зносінаў з журналістамі да сябе ў Англію.

**Алена Сіневіч**

 



# «Чорная дзірка»

## З кнігі Збігнева Бжэзінскага «Wielka szachownica» («Вялікая шахматная гульня»)

**Працяг. Пачатак у NN28,29**

Існавалі і чыста ўнутраныя фактары, якія выклікалі сітуацыю, калі «сталае партнёрства» дзвюх «дэмакратый» з'явілася на самой справе ілюзіяй. Расія была вельмі адсталай і спустошанай камуністычным кіраваннем, каб стаць раўнапраўным дэмакратычным партнёрам ЗША. Напышлівая рыторыка на тэму партнёрства не здолела засланіць гэтыя надзвычай істотныя прычыны. Да таго ж, постсавецкая Расія толькі часткова змагла парваць з мінулым. Амаль усе яе «дэмакратычныя» дзеячы, нават тыя, хто шчыра расчараваўся ў савецкім мінулым, былі не толькі выхаваны савецкай сістэмай, але і з'яўляліся высокапастаўленымі функцыянерамі. Яны не былі выхадцамі з дысідэнтаў, што мела месца ў Польшчы і Чэхіі. Асноўныя інстытуты савецкай улады хаця і былі паслаблены, дэмаралізаваны і раз'ядаемы карупцыяй, працягвалі функцыянаваць. Сімвалам такой рэчаіснасці і захавання сувязяў з камуністычным мінулым з'яўляецца самы галоўны помнік Масквы - маўзалей Леніна. Гэта падобна таму, калі б у пасляфашысцкай Германіі правілі нацысцкія гаўляйтэры сярэдняга звяна, што абвяшчалі дэмакратычныя лозунгі, а ў цэнтры Берліна знаходзіўся б маўзалей Гітлера.

Палітычная слабасць новай дэмакратычнай эліты павялічвалася з прычыны эканамічнага крызісу ў Расіі. Неабходнасць карэнных рэформаў - адасабленне дзяржавы ад эканомікі - выклікала прэтэнцыёзныя спадзевы з боку Расіі на дапамогу Захада і асабліва Амерыкі. Хаця гэтая дапамога, што прадастаўлялася пераважна Германіяй і ЗША, паступова набрала вялікія абароты, але нават у самых добрых умовах не здолела паспрыяць хуткаму эканамічнаму адраджэнню. Грамадскае нездавальненне ўрэшце рэшт з'явілася пажыўным асяроддзем для вострай крытыкі з боку расчараваных, тых, хто сцвярджаў, што партнёрскія адносіны ЗША - гэта падман, выгадны толькі для Амерыкі і шкодны для Расіі.

Карацей кажучы, пасля распаду Савецкага Саюза ў Расіі не было ні аб'ектыўных, ні суб'ектыўных умоваў для сапраўднага партнёрства. Дэмакратычныя прыхільнікі празаходняй арыентацыі жадалі занадта шмат, а ўзамен даць маглі вельмі мала. Імкнуліся да партнёрства на роўных умовах - да сумеснага з Амерыкай сусветнага панавання, адносна свабодных рук у межах СНД і геапалітычна нічыёй Цэнтральнай Еўропы. Але двухсэнсоўныя адносіны да савецкай гісторыі, няздольнасць рэальна ацаніць маштабы расійскага ўплыву на міжнароднай арэне, глыбіню эканамічнага крызісу, а таксама адсутнасць шырокай падтрымкі ў грамадстве - усё гэта абумовіла тое, што яны былі не ў стане стварыць новую стабільную і насамрэч дэмакратычную Расію, існаванне якой і прадугледжвала канцэпцыя роўнага партнёрства. І перш як сапраўднае партнёрства з Амерыкай стала б рэальным палітычным фактам, Расія павінна была б прайсці працяглы працэс рэфармавання дзяржаўнага ладу, не менш працяглы працэс умацавання дэмакратыі і яшчэ значна даўжэйшы працэс грамадска-эканамічнай перабудовы, а ў выніку прывесці да змены адносінаў расійскага грамадства да новай геапалітычнай рэчаіснасці не толькі ў Цэнтральнай Еўропе, але асабліва на тэрыторыі былой Вялікарасійскай імперыі, каб расіяне пазбавіліся ад імперскіх амбіцый і зразумелі нацыянальныя памкненні іншых краін.

Не варта здзіўляцца, што ў дадзенай сітуацыі канцэпцыя «блізкага замежжа» стала адначасова падставай для агульнай крытыкі празаходніх поглядаў і зыходным пунктам для стварэння альтэрнатыўных прыярытэтаў знешняй палітыкі. Гэтая крытыка абапіралася на аргумент, што канцэпцыя «партнёрства» не ўлічвае тое, што для Расіі з'яўляецца самым важным, а менавіта яе адносіны з былымі савецкімі рэспублікамі. Лозунг «блізкае замежжа» стаў сімвалам палітыкі, скіраванай на запаўненне геапалітычнай прасторы, што займаў некалі Савецкі Саюз, нейкай новай адкрытай арганізацыйнай структурай, у якой Масква адыгрывала б ролю вырашальнага цэнтра. Зыходзячы з дадзеных перадумоваў, кіруючая расійская эліта амаль аднадушна прызнала, што палітыка скіравання позіркаў на Захад прыносіць малую карысць і вымагае велізарных высілкаў, што палягчае Заходу выкарыстоўваць шанец, які з'явіўся ў выніку распаду Савецкага Саюза.

Канцэпцыя «блізкага замежжа» стала своеасаблівым парасонам, пад якім згуртаваліся прадстаўнікі разнастайных геапалітычных тэорый. Сярод іх былі не толькі прыхільнікі функцыяналізму і дэтэрмінізму (у тым ліку, прыхільнікі празаходняй арыентацыі), хто верыў у тое, што СНД шляхам эвалюцыі ператворыцца ў нешта накшталт Еўрапейскага Саюза пад кіраўніцтвам Расіі, але таксама і палітыкі вялікадзяржаўнай арыентацыі, што ў эканамічнай інтэграцыі бачылі адзін з інструментаў аднаўлення імперыі, якое магло адбыцца ў межах СНД ці шляхам спецыяльнага пагаднення, заключанага ў 1996 годзе паміж Расіяй і Беларуссю, а таксама паміж Расіяй, Беларуссю, Казахстанам і Кыргызстанам. Былі таксама славянафілы-рамантыкі, якія выказваліся за саюз славянскіх дзяржаваў, куды б увайшлі Расія, Украіна і Беларусь; былі нарэшце прыхільнікі даволі містычнай еўраазіяцкай канцэпцыі, якую прымалі за аснову гістарычнай місіі Расіі.

У самай вузкай сваёй форме канцэпцыя «блізкага замежжа» абапіралася на досыць слушны тэзіс, што Расія перш за ўсё павінна засяродзіцца на адносінах з маладымі незалежнымі дзяржавамі, асабліва, калі яны працягвалі быць ад яе залежнымі з прычыны мэтанакіраванай савецкай палітыкі ў мінулым. Такая канцэпцыя мела як эканамічны, так і геапалітычны сэнс. «Агульная эканамічная прастора», пра якую надта падабалася распавядаць расійскаму кіраўніцтву, стала рэальнасцю, якую не маглі ігнараваць маладыя незалежныя дзяржавы. Супрацоўніцтва і нават пэўная доза інтэграцыі былі эканамічнай неабходнасцю. З гэтага пункту гледжання стварэнне агульных інстытутаў СНД было не толькі нармальнай, але і пажаданай з'явай, бо яно супрацьстаяла разрыву кааперацыі паміж прадпрыемствамі, які быў абумоўлены распадам Савецкага Саюза.

Для некаторай часткі расіянаў прапаганда эканамічнай інтэграцыі была апрача ўсяго эканамічна абгрунтаванай і палітычна адказнай рэакцыяй на тое, што адбылося. Часта пры гэтым праводзілі аналогію з Еўрапейскім Саюзам, беручы яго ў якасці ўзору, які варты пераймання ў постсавецкіх умовах. Больш умеркаваныя прыхільнікі эканамічнай інтэграцыі адкрыта выступалі супраць планаў аднаўлення імперыі. Напрыклад, у важным рапарце пад назвай «Стратегия для России», апублікаваным яшчэ ў жніўні 1992 года Саветам па пытаннях знешняй палітыкі і абароны (у склад якога ўваходзілі знакамітыя людзі, а таксама дзяржаўныя функцыянеры), было рашуча заяўлена, што найбольш прымальнай праграмай для постсавецкай «агульнай эканамічнай прасторы» з'яўляецца «пісьменная інтэграцыя постімперскай эпохі».

Аднак тое, што прыярытэты былі аддадзены «блізкаму замежжу», было не толькі мягкай дактрынай рэгіянальнага эканамічнага супрацоўніцтва; геапалітычны змест меў таксама імперскае адценне. Нават у адносна ўмеркаваным рапарце 1992 года было сказана пра аднаўленую Расію, якая ў будучыні стане стратэгічным партнёрам Захада і будзе адыгрываць ролю «рэгулятара сітуацыі ва Усходняй Еўропе, Сярэдняй Азіі і на Далёкім Усходзе». Іншыя прыхільнікі аддачы прыярытэтаў «блізкаму замежжу» ўжо не прыхоўвалі сваіх амбіцый і адкрыта заяўлялі пра выключнае права Расіі на галоўную палітычную ролю на тэрыторыі былога Савецкага Саюза, а таксама абвінавачвалі заходнія дзяржавы ў тым, што іх дапамога Украіне ды іншым маладым дзяржавам не што іншае як праява антырасійскай палітыкі.

Тыповым, але зусім не экстрэмальным, прыкладам, была пазіцыя Амбарцумава, які ў 1993 годзе выконваў абавязкі старшыні парламенцкай камісіі па міжнародных справах, быў даўнім прыхільнікам «партнёрства». Ён адкрыта заявіў, што тэрыторыя былога Савецкага Саюза з'яўляецца выключна зонай геапалітычнага ўплыву Расіі. У студзені 1994 года яго аргументы паўтарыў міністр замежных справаў Андрэй Козыраў, які да гэтага падтрымліваў празаходнюю арыентацыю, сцвярджаючы, што Расія павінна захаваць сваю вайсковую прысутнасць у рэгіёнах, якія на працягу многіх стагоддзяў уваходзяць у сферу яе інтарэсаў. 8 красавіка 1994 года «Известия» апублікавалі інфармацыю, што Расія здолела захаваць як мінімум 28 вайсковых базаў на тэрыторыі былых савецкіх рэспублік, а лінія, што злучае гэтыя базы ў раёне Калінінграда, у Малдове, Крыму, Арменіі, Таджыкістане і на Курыльскіх астравах, больш-менш адпавядае межам былога Савецкага Саюза.

У верасні 1995 года прэзідэнт Ельцын падпісаў афіцыйны дакумент, прысвечаны палітыцы Расіі ў СНД. Задачы Расіі ў гэтым дакуменце былі вызначаны наступным чынам: «Галоўная мэта палітыкі Расіі ў СНД - стварэнне эканамічна і палітычна інтэграванай садружнасці дзяржаваў, здольнай заняць належнае месца ў сусветным таварыстве...умацаванне пазіцыі Расіі як галоўнай сілы ў пабудове новай міждзяржаўнай сістэмы палітычных і эканамічных адносінаў на тэрыторыі былога СССР».

Варта звярнуць увагу на палітычнае вымярэнне дадзенай канцэпцыі: узгадванне пра адзінае, інтэграванае цэлае і «належнае месца» ў сусветнай сістэме, а таксама аб планаваемай дамінуючай ролі Расіі ў новай структуры. Згодна з гэтымі перадумовамі Масква імкнулася зацягнуць палітычныя і ваенныя вузы паміж членамі СНД - стварыць агульнае вайсковае камандаванне, падпісаць афіцыйны трактат аб узаемасувязі ўзброеных сіл краінаў СНД, наладзіць цэнтралізаваны (г.зн. маскоўскі) кантроль «знешніх межаў» СНД, зрабіць расійскія войскі ядром міратворчых сіл, што будуць дзейнічаць на тэрыторыі СНД, праводзіць фармаванне агульнай знешняй палітыкі ў межах СНД, галоўныя ўстановы якога будуць размешчаныя ў Маскве (а не ў Менску, як гэта меркавалася раней, у 1991 годзе), да таго ж, на чале з расійскім прэзідэнтам.

Але гэта яшчэ не ўсё. У верасьнёўскім 1995-га года дакуменце зазначалася, што «неабходна гарантаваная трансляцыя расійскага тэлебачання на тэрыторыі блізкага замежжа, падтрымка распаўсюджвання расійскай прэсы ў гэтых рэгіёнах, а Расія павінна таксама рыхтаваць кадры для дзяржаваў - членаў СНД.

Трэба надаць асаблівае значэнне аднаўленню аўтарытэта Расіі як галоўнага адукацыйнага цэнтра на тэрыторыі былога СССР, памятаючы пры гэтым аб неабходнасці выхавання моладзі краінаў СНД у духу прыязных адносінаў з Расіяй».

Следам за гэтымі настроямі Расійская Дума рушыла ў пачатку 1996 года яшчэ далей, аж да абвяшчэння несапраўднасці роспуску Савецкага Саюза. Акрамя гэтага, увесну гэтага ж года Расія падпісала два пагадненні, якія прадугледжвалі больш цесную эканамічную і палітычную інтэграцыю з самымі паслухмянамі членамі СНД. Адно з пагадненняў, якое падпісвалася з велізарнай пампезнасцю, стварала фактычны саюз Расіі і Беларусі ў межах новай Садружнасці Суверэнных Дзяржаваў (абрэвіятура мэтанакіравана нагадвала назву Савецкага Саюза - ССР, без аднаго



«С»). Што да другога пагаднення, падпісанага паміж Расіяй, Казахстанам, Беларуссю і Кыргызстанам, то яно прадугледжвала ў далейшай перспектыве стварэнне «садружнасці інтэграваных дзяржаваў». Абедзве ініцыятывы сведчылі пра нездаволенасць Расіі маруднымі інтэграцыйнымі працэсамі ў межах СНД і дэтэрмінацыю высілкаў, скіраваных на іх паскарэнне.

Тэорыя «блізкага замежжа» з акцэнтам на цэнтралізаваныя механізмы кіравання ў межах СНД звязвала аб'ектыўныя эканамічныя патрэбы з суб'ектыўнымі памкненнямі адраджэння імперыі, аднак не давала ні філасофскага, ні геапалітычнага адказу на пытанні: «Чым з'яўляецца Расія? У чым заключаецца яе гістарычная місія? Дзе павінны праходзіць яе межы?».

Гэтую пустэчу паспрабавала запоўніць дактрына «еўраазіяцкасці», якая набывала ўсё большую папулярнасць, а таксама канцэнтравалася на «блізкім замежжы». Зыходным пунктам дадзенай канцэпцыі, якая звярталася да паняццяў, узятых з галіны культуры і нават містыкі, з'явіўся тэзіс пра тое, што з геапалітычнага і цывілізаванага пункту гледжання Расія не з'яўляецца краінай чыста еўрапейскай ці чыста азіяцкай, а мае сваё асаблівае еўраазіяцкае паходжанне. Гэтае паходжанне з'яўляецца спадчынай беспрэцэдэнтнай улады Расіі над велізарнымі тэрыторыямі, што пралеглі ад Цэнтральнай Еўропы да ўзбярэжжа Ціхага акіяну, спадчынай імперыі, якую стварала Масква на працягу 400-гадовай экспансіі на Усход. Падчас гэтай экспансіі Расія асімілявала вялізную колькасць народаў нярускага і нееўрапейскага паходжання, што і абумовіла ўзнікненне спецыфічнай еўраазіяцкай псіхалогіі, якая выяўляецца ў палітыцы і культуры.

Дактрына еўраазіяцкасці» ўзнікла не ў постсавецкую эпоху. Упершыню яна з'явілася ў XIX стагоддзі, а набыла папулярнасць праз сто гадоў у якасці альтэрнатывы савецкаму камунізму і як рэакцыя на ўяўнае дэкадэнцтва Захада. Асабліва актыўна яе прапагандавалі расійскія эмігранты; у ёй яны бачылі альтэрнатыву савецкай сістэме, бо добра разумелі, што калі дойдзе да нацыянальнага абуджэння нярускіх народаў, што насялялі Савецкі Саюз, то спатрэбіцца агульная дактрына, якая б мела наднацыянальны характар, каб канчатковае падзенне камунізму не абумовіла дэзінтэграцыю былой расійскай імперыі.

Яшчэ ў пачатку XX стагоддзя дактрыну «еўраазіяцкасці» пераканаўча прадэманстраваў князь Н.С.Трубяцкой, яе галоўны прапагандыст, які пісаў, што «камунізм з'яўляецца па сутнасці прыхаванай формай еўрапеізацыі, таму што знішчае духоўныя асновы расійскага жыцця і яго нацыянальныя асаблівасці, прапагандуе матэрыялізм, які пануе ў аднолькавай ступені як ў Еўропе, так і ў Амерыцы.

Нашай задачай з'яўляецца стварэнне абсалютна новай культуры, нашай уласнай культуры, якая не будзе пераймаць еўрапейскую цывілізацыю...бо зноў набудзе сваё аблічча: стане Расіяй-Еўразіяй, свядомай пераймальніцай і паслядоўніцай велізарнай спадчыны Чынгіз-хана».

Гэтыя погляды знайшлі сваіх адданых прыхільнікаў ва ўмовах постсавецкага хаосу. З аднаго боку, яны выкрывалі камунізм за тое, што ён здрадзіў прынцыпам расійскага праваслаўя і асаблівай містычнай «ідэі Расіі»; з другога боку, не прымалі заходнюю культуру, бо лічылі, што дэгенератыўныя і антырасійскія ў культурным сэнсе Захад і Амерыка, апрача ўсяго не прызнаюць гістрычна і геаграфічна абгрунтаваных прэтэнзіяў Расіі на кантраляванне еўраазіяцкага сухапутнага масіву.

Тэорыя «еўраазіяцкасці» атрымала акадэмічнае адлюстраванне ў часта цытуемых лістах Льва Гумілёва, гісторыка, географа і этнографа, які ў сваіх кнігах «Сярэдневяковая Расія і Вялікі стэп», «Рытмы Еўразіі» і «Геаграфія этнасу ў старажытныя часы» сцвярджаў, што Еўразія - гэта натуральнае геаграфічнае асяроддзе асаблівага «этнасу» расійскага народа, які з'яўляецца вынікам гістарычнага сімбіёзу рускага з нярускімі народамі адкрытых стэпаў, што абумовіла ўзнікненне адмысловай еўраазіяцкай культуры і духоўнай тоеснасці. Гумілёў перасцерагаў, што перайманне заходняй культуры станецца для рускага народа стратай «этнасу і душы».

Гэтыя погляды паўтаралі, хаця і ў вульгарызаванай форме шматлікія расійскія палітычна актыўныя нацыяналісты. Напрыклад, Аляксандр Руцкой, былы намеснік Ельцына, сцвярджаў: «Звяртаючы ўвагу на геапалітычнае становішча нашай краіны, мы выразна заўважаем, што Расія з'яўляецца адзіным мастом, які існуе паміж Азіяй і Еўропай. Той, хто калі-небудзь будзе ўладаром гэтай прасторы, будзе таксама ўладаром свету». Камуністычны супернік Ельцына на прэзідэнцкіх 1996 года выбарах Генадзь Зюганаў, акрамя сваіх марксісцка-ленінскіх перакананняў, запазычыў з еўраазіяцкай канцэпцыі містычнае сцвярджэнне наконт асаблівасці духоўнага прызначэння народа Расіі на вялізнай тэрыторыі Еўразіі. Г.Зюганаў зазначаў, што Расія як краіна, якая надзелена беспрэцэдэнтнай культурнай і гістарычнай місіяй, мае выключна выгаднае геаграфічнае месцазнаходжанне для выканання ролі сусветнага лідара.

Больш цвярозую і прагматычную версію еўраазіяцкасці прыняў кіраўнік Казахстана Нурсултан Назарбаеў. Маючы адносіны з насельніцтвам, палову якога складаюць аўтахтонныя казахі, а палову расійскія каланісты, і знаходзячыся ў стане пошуку формулы, якая нейкім чынам дапамагла б паслабіць націск Расіі на палітычную інтэграцыю, Назарбаеў пачаў прапагандаваць канцэпцыю «Еўраазіяцкага Саюза» як альтэрнатыву малазразумелай і неэфектыўнай Садружнасці Незалежных Дзяржаваў. Хаця яго канцэпцыя не заключала ў сабе містычнага зместу, характэрнага для болей традыцыйных еўраазіяцкіх версіяў, і не прадугледжвала спецыяльнай гістарычнай місіі для расіян у Еўразіі, яна ўсё ж абапіралася на тэзіс, што Еўразія з геаграфічнага пункту гледжання тоесная былому Савецкаму Саюзу і з'яўляецца арганічным цэлым, якое павінна мець таксама палітычнае вымярэнне.

**Працяг будзе**

 

# Дзве кватэры ва ўласнасці - гэта ўжо небяспечна

**Беларусь вярнулася ў брэжнеўскія часіны, гады бязмежнага панавання правілаў сацыялістычнага супольнага жыцця. Мала таго, што выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў праводзіліся не па Канстытуцыі, а па вышэйуказаных правілах, дык яшчэ нормы новага Грамадзянскага кодэкса «будуюцца» зыходзячы з паняццяў абароны маральнасці і грамадскага абавязку, а таксама нацыянальнай бяспекі.**

У адпаведнасці з артыкулам 1136 новага Грамадзянскага кодэкса закон уступае ў сілу першага ліпеня 1999 года, за выключэннем главы чацвёртай раздзела I ды раздзела VIII (юрыдычныя асобы і заключныя палажэнні ўжо маюць юрыдычную сілу). Атрымліваецца, што з першага ліпеня бягучага года колькасць і кошт маёмасці, якая знаходзіцца ва ўласнасці грамадзян Рэспублікі Беларусь, можа абмяжоўвацца палажэннямі пункта другога часткі першай артыкула 214 Грамадзянскага кодэкса. Гэтыя абмежаванні могуць быць уведзены:

1) у інтарэсах бяспекі Рэспублікі Беларусь;
2) у інтарэсах грамадскага парадку;
3) абароны маральнасці (!);
4) здароўя насельніцтва;
5) правоў і свабод іншых асобаў.

Асаблівa ў вышэйуказаным спісе, на наш погляд, вылучаюцца пункты тры і пяць. Якім жа гэта чынам сёння ўлада разумее маральнасць, а як будзе разумець заўтра?

Абараняючы «інтарэсы» іншых, парушаем інтарэсы ўласніка!

Згодна з артыкулам 13 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, уласнасць можа быць дзяржаўнай і прыватнай (адпаведна артыкулу 213 Грамадзянскага кодэкса). Па меркаваннях уладаў, большая частка ўласнасці належыць жулікам. Калі нейкая маёмасць належыць жулікам у вялікіх памерах, то гэта маральна ці не?

Цяпер ужо не вядуцца размовы пра выкарыстанне артыкула 214 Грамадзянскага кодэкса ў дачыненні да ўладальнікаў некалькіх кватэр, катэджаў і г.д. Беларусь можа атрымаць новы імпульс да рашэння прэзідэнцкай праграмы «Жыллё, экспарт, прадукты харчавання». І калі перабоі з прадуктамі харчавання, нягледзячы нават на рэзкае падвышэнне коштаў не зніклі, экспарт да ўзроўня 1997 года - 57 працэнтаў, да ўзроўня 1998 года - 61,3 працэнта, то свабоднае жыллё хутка з'явіцца... Хутчэй за ўсё з першага ліпеня.

Следам за абмежаваннямі фізічных асобаў у колькасці і кошце маёмасці, якая знаходзіцца ў іх уласнасці, Грамадзянскі кодэкс дапускае ўстанаўленне падобных абмежаванняў і для асобаў юрыдычных. Абмежаванні будуць уведзены напрыканцы бягучага года адпаведным законам.

Наогул, па Беларусі крочаць новыя лозунгі: «Бедны багатаму не таварыш», «Прадпрымальнік - жулік, а жулік і маральнасць несумяшчальныя».

**Кацярына Зволін**



**Сённяшнія правадыры вядуць справу да таго, што адзінай законнай уласнасцю кожнага з нас стане сметнік Фота:IREX/ProMedia.**

# Дом, у якім мы не жывём...

**Гэтая гісторыя бярэ пачатак у 1992 годзе, калі выканкам Гарадзенскага гарсавета на чале з Сямёнам Домашам аператыўна выдзяліў зямельны ўчастак для пабудовы жылога 40-кватэрнага дома. Была праектна-каштарысная дакументацыя. Дамагліся ліцэнзій на права правядзення будаўнічых работ, а таксама на інвеставанне сродкаў насельніцтва. Стварыўся калектыў індывідуальных забудоўшчыкаў. Грамадзяне зрабілі першапачатковыя ўнёскі. Будаўнікі дзелавіта паплявалі на далоні і ўзяліся за рыдлёўкі...**

Першы камень у агарод будаўнікоў - МП «Гран» - шпурнулі простыя савецкія грамадзяне з размешчаных побач «хрушчовак». Напісалі на адрас гарадскіх уладаў, што не жадаюць мець пад носам новабудоўлю, замінае - і ўсё тут! Гарвыканкам не пайшоў супраць народа. Праект абкарналі, перарабілі пад 28 кватэр. Узяліся за нулявы цыкл. Але не, пільныя наглядальнікі адразу спынілі: няма дазволу на правядзенне земляных работ. А той дазвол ужо два гады не давала адна адказная асоба. Начальнік адмаўляе, і прычын не тлумачыць. Так яму захацелася...

Неўпрыкмет праляцелі тры гады. Дом не пабудаваны. Грошы забудоўшчыкаў «з'ела» інфляцыя. Наогул, той будаўнічы кааператыў спыніў сваё існаванне. Людзі не дачакаліся кватэр. Іх вера ў магчымасці прадпрымальнікаў у будаўнічай сферы мізэрная. Хіба параўнаеш з магутнымі дзяржаўнымі вытворчымі аб'яднаннямі! Не той размах і маштабы не тыя. Летась яны здалі ў эксплуатацыю 1963 кватэры толькі ў Гродне. А тут -усяго 28. Смеху варта.

А вось кіраўнік «Грана» Уладзімір Рыгоравіч Філімонаў так не лічыць. Былы шматгадовы намеснік дырэктара гарадзенскага завода «Радыёпрыбор» па будаўніцтву не склаў рукі пасля першай няўдачы і ад свайго не адмовіўся. Дамогся дазволу на ўзвядзенне цяпер ужо двух васьміпавярховых 32-х кватэрных дамоў па праспекце Касманаўтаў. Гарадскія ўлады далі права ўзводзіць адзін, хаця дакументацыя падрыхтавана менавіта на два. Неўзабаве будаўнікі пяройдуць да апрацоўчых работ. Аднак па-ранейшаму вядзецца перапіска, якая часамі пераходзіць у пазіцыйную вайну мясцовага значэння. У якасці атакуючых выступае, напрыклад, Дзяржбуднагляд у асобе яго начальніка І.Кузміча і галоўнага інжынера В.Косарава. Яны прыпынілі сапраўднасць ліцэнзіі на будаўніцтва МП на падставе сумненняў у трываласці нясучых цагляных сцен першага паверху. Камісія, утвораная рашэннем старшыні аблвыканкама на падставе скаргі У.Філімонава ды індывідуальных забудоўшчыкаў, гэтыя высновы падтрымала. На разлікі каэфіцыента трываласці, зробленыя дасведчанымі спецыялістамі, увагі не звярнула. Акт выклікаў пратэст па складу камісіі, яе рабоце, аднабаковых, на думку дырэктара малога прадпрыемства, высновах.

Адпаведны ліст быў накіраваны на адрас адміністрацыі прэзідэнта. Дакумент падпісала больш як палова грамадзян, якія ўклалі свае грошы ў будаўніцтва кватэр. На прыкладах сцвярджаецца, што некаторыя чыноўнікі папросту ігнаруюць выкананне «Жыллёвай праграмы» і нядаўна прынятага «Жыллёвы кодэкс Беларусі». Адну з прычын канфлікту паміж чынавенствам гарвыканкама і МП людзі бачаць у жаданні першых атрымаць сучасныя камфартабельныя кватэры для гарадскога фонду. Але ніхто проста за так кватэры гарадскому выканаўчаму камітэту не аддасць. Дом будуецца пад канкрэтных жыхароў.

Мае падставы і меркаванне чыста прагматычнае. Кватэры МП абыдуцца людзям танней, чым аналагічныя горшай планіроўкі ў дамах дзяржаўных будаўнічых арганізацый... Тым не менш першы намеснік старшыні гарвыканкама І.Ціток сцвярджае, што будаваць другі дом пакуль што ранавата. Між іншым, адмаўляюць ужо другі год запар. Маўляў, МП «Гран» не прадстаўляе дакументы, якія «пацвярджаюць фінансавыя магчымасці для ўзвядзення другога шматкватэрнага дома». Гэта значыць, што грошы павінны ляжаць у банку. Але сёння кожны лічыць свой уласны рубель і не дазволіць яму абясцэньвацца. Выдаткоўвае пад надзённыя патрэбы, і не больш.

Узнікае адчуванне, што некаму вельмі карціць пазбавіцца канкурэнта. Узвядзенне двух дамоў па праекту трох гадоў чамусьці не ўключаецца ў праграму жыллёвага будаўніцтва горада. Некага проста трасе з-за таго, што МП «Гран» не выкарыстоўвае бюджэтныя сродкі, але жыве, не гібее. На поўным сур'ёзе чыноўнікі сцвярджаюць, што малое прадпрыемства не мае сваёй будаўнічай базы, нібыта на сёння гэта вызначальны паказчык. За грошы заўсёды знойдзеш вежавы кран ці аўтамабіль для падвозкі матэрыялаў. Не вытрымлівае крытыкі лямант, што адсутнічаюць прафесійныя будаўнікі. Якраз яны цяпер працуюць там, дзе можна добра зарабіць.

А можа, праўду пішуць індывідуальныя забудоўшчыкі, што мэта ўсёй гэтай цягамоціны адна: пазбавіць МП «Гран» ліцэнзіі на права будаўнічых работ, за капейкі выкупіць гатовы на 2/3 дом, за дзяржаўны кошт дабудаваць яго і падзяліць кватэры паміж сабой. Ці не адсюль настойлівыя спробы навязаць узвядзенне камунікацый па праекту, коштам больш за палову самога дома. Напрыклад, усталяваць трансфарматар на 1200 кілават, у той час, калі дом будзе спажываць усяго 90 Квт, правесці двухкіламетровую ліўнёвую каналізацыю, здольную збіраць сцёкі на плошчы 90 гектараў, «падцягнуць» тры кіламетры тэлефоннага кабеля...

Аднак, чаму ніхто не хоча ўлічыць інтарэсы саміх грамадзян, на чые сродкі ўзводзіцца дом? Чаму яны павінны трываць здзекі з боку чыноўнікаў, са сваёй кішэні аплочваць іх прыхамаці?

**Антон Лабовіч**

# Курсы валют

**На 28 красавіка Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют:** даляр ЗША — 243.000 беларускіх рублёў; еўра — 258.309,00; нямецкая марка — 132.071,29; расійскі рубель — 9.960.

У параўнанні з учарашнім днём, афіцыйны курс даляра не змяніўся.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 28 красавіка даляр куплялі па 390.000—395.000 і прадавалі па 405.000—410.000 рублёў.

У параўнанні з учарашнім днём, курс не змяніўся.

**Дзмітрый Уласаў**

# Цэны растуць...

**За перыяд з 15 сакавіка па 15 красавіка інфляцыя, зыходзячы з дадзеных Міністэрства статыстыкі і аналізу, склала 15,7 працэнта.**

Нягледзячы на такі высокі паказчык, некаторыя тавары і паслугі за вышэйзгаданы перыяд падвысіліся на значна больш працэнт, чым 15,7. Інфляцыя ў Міністэрстве статыстыкі разлічваецца своеасаблівa...

У дзяржаўным гандлі з 15 сакавіка па 15 красавіка кошты выраслі на:

- хлеба-булачныя вырабы на 11,3 працэнта;
- ялавічыну на 26 працэнтаў;
- яйкі на 48,5 працэнта;
- сыр (цвёрды) на 22,7 працэнта;
- моркву на 190 працэнтаў;
- бензін на 27,5 працэнта;
- кока-колу на 50 працэнтаў;
- пасажырскія аўтаперавозкі на 29,5 працэнта і г. д.

Значыць, сярэдні працэнт зусім не 15,7, а значна больш. Няўжо Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь прыпісвае?

**Сяргей Міронаў**

# Віктар Манаеў: «Тэатр ніколі не памрэ»

**На нядаўнія гастролі ў Гродна прыехала амаль уся трупа тэатра імя Янкі Купалы - і прызнаныя, карыфеі, і студэнты тэатральных вучэльняў. Віктар Манаеў - заслужаны артыст Беларусі, зорка купалаўскай сцэны, на якой працуе ўжо амаль 20 гадоў. У энцыклапедыі мастацтва, куды ён трапіў маладзейшым за 30 гадоў, яго называюць «выканаўцам лірыка-драматычных характарных роляў». Гледачу Віктар Манаеў знаёмы па фільму «Людзі на балоце» (які, дарэчы, цяпер паказваюць па БТ), спектаклях «Брама неўміручасці» К.Крапівы, «Валенсіянскія вар'яты» Лопе дэ Вега. У Гродне яго можна было бачыць у гастрольных спектаклях «Ідылія» Дуніна-Марцінкевіча і «Інтымны тэатр» Е.Міровіча.**

***- Падчас прывітальнай прамовы перад гледачамі ў дзень адкрыцця гастроляў Вы сказалі, што з'яўляецца невыпадковым тое, што менавіта Гродна стаў першым гастрольным горадам. Чаму?***

- Гэта амаль невытлумачальна... Наш тэатр вельмі любіць горад Гродна, не ведаю нават, чаму. Магчыма, за ягоны нейкі своеасаблівы творчы, беларускі дух. Тут проста прыемна жыць і працаваць. Едзеш на аўтобусе па гарадзенскіх вуліцах, бачыш на платах, на дамах надпісы розныя... Відаць, тут жыве беларушчына.

***- Чаму гастрольная праграма складаецца менавіта з пяці гэтых спектакляў: «Князь Вітаўт», «Ідылія», «Інтымны тэатр», «Піраміда Хеопса» і «Паўлінка»?***

- Я не складаю рэпертуар, ды і не сказаў бы, што гэтыя спектаклі паказваюць аблічча нашага тэатра. «Князь Вітаўт» - бестселер і ў Менску, і ў любым іншым горадзе. «Піраміда Хеопса» - прэм'ера, «Ідылія» - проста вельмі добры спектакль ва ўсіх адносінах. Ну, а «Паўлінка» - гэта класіка, на якую гледачы заўсёды ідуць.

***- Я ведаю, што «Інтымны тэатр» - спектакль, пастаўлены без рэжысёра.***

- Сапраўды, гэта вынік работы шасці акцёраў. Атрымаўся вадэвіль, дзеянне на сцэне, поўнае імправізацыяў, нешта накшталт капусніка. У гэтай пастаноўцы выявілася ўяўленне акцёраў пра тэатр, пра рэжысуру. Намі кіравала прага ўзлёту, і нам самім падабаецца тое, што атрымалася.

***- Чым Вы кіраваліся, калі вырашылі ў юнацтве звязаць свой лёс з такой «несур'ёзнай» прафесіяй, як акторства?***

- Сам Бог вядзе чалавека да яго лёсу. Не чалавек выбірае, па якому шляху пайсці, сам лёс яго выбірае. Мне здавалася, што ўсё жыццё, з дзяцінства, мне падабалася весяліць людзей.

Пасля школы мяне не прынялі ў інстытут, і я знайшоў сабе працу ў лялечным тэатры. Адпрацаваў год - і вырашыў звязаць свой лёс з тэатрам і надалей. Вось так яно і атрымалася.

***- Аднак цяпер глядач не надта рвецца ў тэатр, аддаючы перавагу тэлевізару.***

- Ну чаму ж, у Менску на некаторыя спектаклі гледачы рвуцца - ідуць на акцёраў, на знакамітага рэжысёра. Наш, купалаўскі тэатр, глядач любіць. Кошт білетаў на «Арт», «Тутэйшых», «Касцюмера» Пінігіна даходзіць да мільёна рублёў. Справа ў майстэрстве рэжысёра, асобе артыста.

***- Якую ролю Вы яшчэ не сыгралі, але вельмі хацелася б?***

- Спадзяюся, што ў мяне яшчэ шмат наперадзе. Хацелася б часцей іграць. Веру, што лепшая роля - наперадзе. Рамэо я, вядома ж, ўжо не сыграю. Але, мабыць, як добра пастараю -буду іграць караля Ліра.

Лёс мне нешта назапасіў, - а я веру ў лёс.

***- Як адчувае сябе творчая асоба ў крызісны час?***

- Мне здаецца, у нас заўсёды - крызіс. Хіба раней, калі не пускалі «Тутэйшых», закрывалі Таганку, калі нельга было выйсці за ўсталяваныя рамкі - не крызіс быў?

А наконт фінансаў... Матэрыяльнае становішча ў нас ва ўсіх аднолькавае - ніякае. Затое цяпер я магу сказаць, што ў тэатры людзі працуюць не за грошы, а таму, што тэатр - гэта іх жыццё. Таленту здрадзіць нялёгка. Тыя, хто прамяняў яго цяпер на прыбытковыя месцы, не шчаслівейшыя за нас. Талент даецца Богам, і здрада яму караецца. Артысты - апантаныя людзі, ім грошы не плаці - дай пайграць. І гэта вялікая чалавечая трагедыя, калі не запрашаюць іграць. Жыццё праходзіць - а душа хоча нешта сказаць свету.

***- Вы спазналі смак Славы?***

- Слава ў нашых беларускіх умовах - гэта я не ведаю, што такое. Ясна, не бывае. Беларускіх акцёраў не здымаюць у кіно. Мастацкіх праграмаў на тэлебачанні амаль няма. У тэатр ходзяць апантаныя - мы іх ужо ў твар ведаем. Якая тут слава?

***- Якое месца ў нашым сённяшнім жыцці займае тэатр?***

- На жаль, вельмі нізкае. Таксіст у Менску, калі папросіш давезці да тэатра Янкі Купалы, можа не ведаць, дзе той тэатр знаходзіцца, хаця будынак стаіць ужо сто гадоў.

***- Дык, можа, Тэатр памёр, саступіўшы месца тэхнічным сродкам камунікацыі?***

- Тэатр ніколі не памрэ! Жывая энергія, якая ідзе са сцэны, ніколі не будзе замененая выпраменьваннем з экратаў TV ці манітора. Нішто так, як тэатр не перадае жывы дух. Таму тэатр ніколі не знікне.

**Алеся Макавецкая**

